Opłata przesyłkowa opłacona ryczałtem.

№ 4 (6). Субота 26-га Траўня 1928 г. м. Вільня. Год II.

# БЕЛАРУСКІ РАДНЫ

Пэрыядычная часопіс па самаўрадавым справам нашага краю.

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: WILNO, Zawalna 6—5. Тэлефон 14-35.

ПАДПІСНАЯ ЦАНА: За 3 месяцы . . . . 2 зл. 1 нумар . . . . . . 50 гр.

АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ.

## „Чырвоны певень“ у нашым саламяным краі.

Лёгкапальная сялянская душа пасьляваенных пакаленьняў і такая-ж безбаронная проці шальнога агню беларуская вёска—быццам нейкае адзінае арганічнае цэлае, бо створаны аднолькавымі супольнымі: вяковай бядой—крыўдай, убожствам, сталым заняпадам духоўнай і вонкавай культуры краю...

Такія сумныя агульныя варункі істнаваньня вытварылі у нашым народзе, у чарзе пакаленьняў, няуменьне дый нежаданьне упорна працаваць над падняцьцем духоўнай роўні душы, як і роўні матэр'яльнага дабрабыту, прысвайваючы сабе ад старшых культурай народаў лепшыя, вышэйшыя спосабы жыцьця і працы.

І толькі гэтыя вышэйшыя спосабы жыцьця забясьпечваюць ад самаволі стыхіяў, ад усялякіх пажараў усе тыя духоўныя і матэр'яльныя маемасьці і вартасьці, якія запраўдная культура вучыць ня толькі „здабываць,“ але і захоўваць для дзяцей і ўнукаў так, каб здабытае не „гарэла,“ ня гінула ад першай шалёнай „іскры прыпадку,“ але наадварот—стварала сільную трывалую падставу для бязьмерна узрастаючага духоўнага і матэр'яльнага дабрабыту краю.

Якісь расейскі статыстык калісьці падлічыў, што такі, як наш, драўняна—саламяны не пабудаваны вясковы край цалком выгарае ў сярэднім кожныя трыдцаць гадоў.

Гэта значыць, што у такім краі бацька як быццам нічога не пакідае ў спадчыну сыну, але літэральна сам спалівае набытае ім за 30 гадоў працы багацьце.

Ці-ж можа быць запраўды нешта больш забойчае для характарыстыкі і лёсу такога краю... Вось у найпрасьцейшым ахопе тая „усходняя небясьпека“, якую наш народ павінен перамагчы...

Дык дзіва, што народ у такім краі, апроч зямлі і мовы, запраўды не захоўвае ніякай бацькаўшчыны, ня мае ніякага культурна-гістарычнага жыцьця, якое пачынаецца толькі тады, калі сын захоўвае даробак бацькі, далучае да яго свой і перадае ўсё далей сыну і ўнуку. Дзіва, што народ жыве такім „натуральным“ жыцьцём пад поўнай уладай сьляпых, варожых стыхіяў прыроды і прыпадку.

Не захоўваючы мінушчыны, ніколі не здабудзе сабе і уласнай будучыны, вольнай бацькаўшчыны, але на заўсёды застанецца сырым матэр'ялам для чужых гмахаў — бо свае яшчэ не навучыўся будаваць.

Надыходзіць летні сэзон бязспыннага сьвята „чырвонага пэўня“ ў нашым Краі. Пачалі ўжо з усіх яго куткоў надыходзіць весткі аб пажарах.

Бяручы справу барацьбы з гэтым страшэнным злом нашага Краю ў яе поўным ахопе, бачым, што гэта, ёсьць задача агульнага ўсебаковага ўздыму ўсей духоўна - матэр'яльнай культуры нашага Краю.

Барацьба павінна весьціся шырокая, пляновая, грамадзка-арганізаваная, ня толькі з праявамі зла, але перадусім з агульнымі яго прычынамі, папераджаючы самую магчымасьць узьніканьня, ды масавага шырэньня пажараў. Падыходзячы да тэхнічнага боку вялізарнай задачы, дамо кароткі агляд паасобных галінаў працы, якой безадкладна павінны заняцца нашы самаўрады. Як ведама, першым крокам усякай грамадзкай барацьбы з тым ці іншым родам грознай для чалавека бяды зьяўляецца апрацаваньне спосабаў адасабненьня (ізаляцыі)

паасобных выпадкаў бяды, каб ня даць ей магчымасьці шырыцца далей. Усім добра ведама, што наша вёска, калі ўзьнікае пажар, дык гарыць уся да апошняга кута. І тут мы адразу ўваходзім у шырокую галіну працы па рацыянальнаму разсяленьню вясковых сялянскіх дрвароў, у галіну добра ведамай сялянам перарэзкі шнуроў на хутары, ці адрубы (так зв. камасацыі).

Працэс камасацыі адбываецца ў нас залішне павольна, але зусім ня з прычыны неразуменьня важнасьці гэтай справы сялянствам, як сьцьвердзіў гэта сам п. мін. Зямельн. Рэформы, але з прычыны... недахопу землямераў. Ёсьць яшчэ, можа найгалаўнейшая прычына гэтай шкоднай нясьпешнасьці камасацыі: ня можна-ж рабіць хутары з тых дробаў дзесяціны, на якіх часта-густа сядзяць сялянскія семьі ў нашым Краі.

У цэннай працы інж. Янікоўскага (гл. у „Pracach Inst. Badań stanu gospod. Ziem Wsch.“) прыведзена табліца размераў вясковых гаспадарак у Наваградзкім ваяв., якую можна лічыць тыповай для нашага Краю.

Дык на агульную лічбу гаспадарак ваяводзтва ў 133.649 аж 17.547, ці 13.2 проц., маюць менш 2 гэктар. (гэктар каля дзевяць дзесятых дзесяціны) зямлі; 51.209, ці 38,4 проц. гаспадаркі маюць „абшар“ ад 2 да 5 гэкт. Дык разам сялянскіх гаспадарак, маючых зямлі менш 5 гэктараў, усяго ў Наваградзкім ваяводзтве 51,6 проц., ці-больш як палова. Аўтар слушна лічыць такія гаспадаркі няздольнымі да жыцьця і самастойнага разьвіцьця. Без адпаведнай прырэзкі зямлі ня можна рабіць перарэзкі шнуроў на хутары. Як бачым, плянова-грамадзкая барацьба з кожнай праявай нашай агульнай адсталасьці упіраецца ў гэтую аснаўную прычыну нашай сялянскай бяды — малазямельле.

Другое, ужо чыста тэхнічнае заданьне ў галіне папярэджаньня пажараў датычыць будаваньня больш адпорных будынкаў на вёсцы.

Пара ўжо і нам распачаць нарэшце рашучую барацьбу з нашай адвечнай хатай, якая захавалася яшчэ з прадгістарычных часоў. Ня трэба толькі забывацца і аб тым, што, як сьцьвердзіў толькі што ў Сойме п. мін. Публіч. Работ., каля 40.000 семьяў нашага сялянства жыве яшчэ ў зямлянках, быццам яшчэ ў „пяшчэрным пэрыядзе разьвіцьця людзкасьці“.

Трэба распачаць рашучую барацьбу з нашай роднай, але шкоднай саламянай страхой, з гэтай залішне ўжо падатнай на „чырвонае полымя“, саламянай галавой нашай сялянскай хаты. Трэба якмага шырэй і плянова нашым самаўрадам паставіць справу агнястойкага будаўніцтва — глінабітных, каменных і іншага роду будынкаў, выкарыстоўваючы для рожнага тыпу ўсе мяйсцовыя магчымасьці і асаблівасьці. Тое, што робіцца дзе-недзе ў гэтай галіне цяпер залішне слаба і прыпадкова.

У зьвязку з гэтым стаіць вялізарнай важнасьці справа апрацаваньня новага рацыянальнага тыпу рожных будынкаў прыкладнай сялянскай гаспадаркі, тыпу ізноў датасаванага да нашых мяйсцовых варункаў. Трэба, каб самаўрады нашы ізноў узялі на сябе пачын і ў гэтай галіне культурнага ўздыму краю, каб яны абвесьцілі сьцяг конкурсаў на лепшыя праэкты і г. д.

Ясна, што ў пэнтры гэтай радыкальнай перабудовы нашай хаты стаіць справа апрацаваньня новага добрага тыпу печы. Што-ж можа быць больш дзіка-недарэчнага ў сялянскай хаце, як не так званая „расейская печка“... Гэтая печка — з яе шкоднымі для здароўя ды разьленіваючымі душу „ляжанкамі“ — займае часта палову ўсей і без таго малай, цеснай, набітай люцзьмі ды іншай жывёлай, хаты зьяўляючыся (ня менш, як „саламяная галава“) апошнім красамоўным выразам страшэннай някультурнасьці нашага вясковага жыцьця, а колькі пажараў вынікаюць з адкрытага жорала гэтай „расейскай печы“!

Але ўсе гэтыя чыста тэхнічныя меры і спосабы падняцьця вонкавай культуры і матэр‘яльнага палепшаньня жыцьця не дадуць добрых трывалых скуткаў, калі ня будуць самі рэзультатамі ўзросту духоўнай культуры насяленьня.

Дык нават у чыста практычнай справе папярэджаньня пажараў, першым і найлепшым спосабам грамадзкай барацьбы з злом зьяўляецца падняцьце агульнай асьветы, узгадаваньне маральна-грамадзкай асобы вясковага жыхара, а ў частцы *падняцьце агульнай цьвярозасьці насяленьня.* Бо-ж кожнаму ясна, якім страшэнным ворагам уздыму духоўна-матэр‘яльнай культуры народу, якім магутным памоцнікам „чырвонага пеўня“ зьяўляецца „плыўкі агонь“ нашай „нацыянальнай“ гарэлкі...

Усе гэтыя меры і спосабы грамадзка-арганізованай пляновай барацьбы з пажарамі зьяўляюцца *найбольш рацыянальнымі, карыснымі і эканамічнымі.* Дык на іх ніколі ня трэба шкадаваць выдатку.

Іншая галіна барацьбы з пажарамі мае мэтамі тэхнічнае ратаваньне ад агню быдынкаў, ужо ахопляных пажарам, арганізаваньне дапамогі пацярпеўшаму ад агня насяленьню і т. д.

Арганізацыя добрых пажарных абозаў — адзін з першых абавязкаў самаўрадаў. Добры стан дарог дасьць магчымасьць тварыць менш лікам, але лепшых якасьцяй абозаў для данага раёну.

Арганізацыя страховай дапамогі пацярпеўшым у пэўнай меры вырашана істнуючым законам аб абавязковым дзяржаўным страхаваньні. Але абавязкавыя стаўкі настолькі малыя, што зусім не забясьпечываюць „адраджэньня з попялу“ спаліўшыхся забудаваньняў гаспадара і яго маемасьці.

Дык самаўрады павінны кіраваць грамадзкім пачынам і ў гэтай галіне барацьбы з пажарамі, арганізуючы таварыствы ўзаемнага страхаваньня, якія захоўваюць для сваіх сяброў усе тыя вялізарныя зыскі, з якіх так багацеюць прыватныя страховыя прадпрыемствы. Як усюды і заўсёды, і тут у галіне барацьбы

з пажарамі, самаўрады павінны плянова і спакойна арганізоўваць перадусім грамадзка-працоўнае жыцьцё і сілы краю, вядучы бязлітасна барацьбу насамперш з цемнатой, няўменьнем, лянівствам і бязсільлям насяленьня, — з усімі гэтымі вадамі і перажыткамі занападу, якія зьяўляюцца наўгоршай бядой ды небясьпекай для жадаючага гаспадарчага і ўсялякага адраджэньня Краю.

P. S. Дэкрэт П. Прэзыдэнта Рэспублікі 16 лютага г. г. аб будаўляным праве і забудаваньні сялібаў дае спробу ўрэгуляваньня таго хаотычнага стану будаўніцтва, які ад веку пануе на нашай вёсцы. „Тытул 11" дэкрэту зьмяшчае „правілы для вясковых гмінаў",—аб парадку камасацыі, забудаваньні хутароў, аб размяшчэньні ў іх будынкаў аб агнятрывалых будынках, аб пячах і трубах і г. д. Дэкрэт прадбачыць пляновае распачацьце барацьбы з лёгка-пальнасьцю нашай вёскі у цесным супрацоўніцтве адміністрацыйнай ўлады з самаўрадамі.

Напрыклад, арт. 271 дэкрэту кажа: Ваявода па прапазыцыі Павятовага Аддзелу, абапёртага на пастанове Гміннай Рады, можа забараніць узьнясеньне неагнятрывалых будынкаў на тым ці іншым абшары сялібы. Дэкрэт 16 лютага апублікаваны ў „Дзен. Устав." 5 сакавіка, з 5 чэрвеня амаль не цалком уваходзіць у сілу. Але, зразумела, Закон дае толькі агульныя правілы і рамкі, якія павінна напоўніць жывым зьместам творчая, працоўная самадзеяльнасьць арганізаванага насяленьня. Бо-ж кожнаму ясна, што тая ці іншая забарона ці пастанова адміністрацыйных уладаў будзе мець дзейную сілу і рэальнае значэньне толькі тады, калі яны будуць выканальнымі, ці калі яны былі падгатаваны папярэдняй творчай працай з боку самага насяленьня ў суадказных, спрыяючых гэтаму, варунках.

Дык вось якраз наш артыкул да ўсяго гэтага і заклікае ўсе дзейныя чыннікі нашага Краю.

---

# Нашы прыродныя багацьці.

Наагул кажучы, наш Край ня мае гэткіх вялікіх прыродных багацьцяў, як, напрыклад, Верхні Шлёнск, з яго камяным вуглём, жалезнаю рудою, цынкам і інш., ці Усходн. Галіцыя з яе сольлю, нафтаю і г. д. Беларусь амаль усімі лічылася самым бедным краем, маючым толькі шмат балота, дый каўтун...

Але гэта ня зусім так выглядае ўзапраўды. Калі мы бедныя, дык не дзеля таго, што нашы прыродныя багацьці ня маюць адпаведных умоваў для стварэньня эканамічнага дабрабыту, а выключна дзеля таго, што, дзякуючы сваей культурнай адсталасьці, мы ня можам выкарыстаць гэтыя багацьці. А згадзіўшыся з гэткім паглядам незнаёмых з нашым краем суседзьдзяў аб Беларусі мы толькі самі ў сабе забіваем энэргію да творчае працы.

Возьмем для прыкладу нашы тарфяныя балоты, якія складаюць больш 1,700,000 гэктараў у 4 усходніх ваяводзтвах і ляжаць зусім ня выкарыстанымі. Гэнае на павярхоўны пагляд безвартасьцёвае балота, спрыяючае разьвіцьцю каўтуна і малярыі запраўды хавае ў сабе бязцэнны скарб у пастаці торфу. Калі-б гэты абшар тарфяных балот апынуўся ў руках немцаў, дык яны, пры сваей тэхніцы і ведзе, здалелі-бы выцягнуць з яго патрэбную карысьць.

Каму траплялася бываць у Нямеччыне (Усх. і Зах. Прусія, Памеранія і Ганноверская правінцыя), той бачыў, якая праца ідзе па эксплёатацыі тарфяных балот. У Нямеччыне яшчэ ў 1914 г. мелася да 120 фірм, якія займаліся выключна здабычай і збытам тарфяной падсьцілкі, прычым вытворчасьць асобных торфападсьцілачных заводаў складала да 2000 вагонаў у год. А колькі ідзе торфу на апал і ўсялякія тэхнічныя вырабы.

У Швэцыі яшчэ ў 1913 г. мелася да 225 торфападсьцілачных прадпрыемстваў з агульнаю вытворчасьцяй да 5 мільёнаў пудоў ці 33000 вагонаў у год, якія яна вывозіць пераважна ў Англію і Данію. Нават Радавая Беларусь мае 7 торфападсьцілачных механічных заводаў, адзін з якіх у Гомлі.

З торфу, які ў нас пакуль ляжыць некранутым у нетрах балот, можна мець вельмі шмат карысьці. Перш-на-перш торф дае вельмі добры апал, які можа замяніць дзераваны; затым торф надаецца для падсьцілкі жывёле і для ўгнаеньня палёў і сенажацьцяў. Торф можна з пасьпехам ужыць для засыпкі выграбных і памыйных ям, для засыпкі сьцен пры будоўлі, а таксама падлогі і столі, каб зрабіць жылыя памешканьні цёплымі.

Навучным спосабам можна здабыць з торфу, як і з дрэва, тарфяны вугаль, дзёгаць і газу для гарэньня.

З гэтага дзёгцю можна здабываць газавае масла, парафін для сьвечак, мэдыцынскі сьродак крэазот, а з дзегцярнай вады можна здабываць драўняны сьпірт, аміяк для ўгнаеньня і воцатную кіслату. Далей торф можа ісьці на выраб віннага сьпірту, пры чым са 100 кілягр. сухога торфу можна атрымаць 6½ вядзёр сьпірту ў 90%. Торф можна ўжываць там, дзе трэба захаваць прадукт ад замярзаньня, як яблыкі, бульбу, гародніну, або захаваць ад гнілі такія прадукты, як рыба, мяса, яйкі.

З пасьпехам можна ўжываць торф у мэдыцыне замест ваты пры перавязках. Ён не распаўсюджвае заразы і ўпітвае кроў з ранаў ці гной з балячак і нарываў. Нарэшце ўжываюць торф для набіўкі сяньнікоў і дзеля вырабу тканін і фарбаў...

Адсюль відаць, што тыя балоты, якія ў нашым краі займаюць значныя плошчы, крыюць у сабе вялікія каштоўнасьці. Толькі трэба ведаць, як здабыць гэтыя каштоўнасьці і дзе

лепей іх ужываць. Зусім зразумела, што для здабыцьця тэхнічных прадуктаў з торфу мы, пры нашым стане прамысловасьці, яшчэ ня здольны.—Гэта пытаньне будучыны. Але што можна з яго здабыць для сельскае гаспадаркі, для чаго ня патрэбна высокай тэхнікі і вялікай веды, дык гэта павінна быць зроблена. Спынімся толькі на трох галоўных ужываньнях — як апалу, падсьцілкі для статку і ўгнаеньняў.

Калі да гэтае пары ў нас торф мала ўжываецца для апалу, дык гэта тлумачыцца толькі тым, што ў нашым краі ёсьць у дастатку лесу. Дзеля гэтага тым болей трэба апшчаджаць лес, які для свайго аднаўленьня патрабуе да 80—100 гадоў. І там, дзе толькі ёсьць магчымасьць яго замяніць торфам, неабходна імкнуцца да гэтага. Тады тое, што мы лічым зараз гаспадарчым ліхам, будзе для нас багацьцем. Лес патрэбны нам для пабудоў, для розных вырабаў у гаспадарцы і для гандлю з заграніцаю. Здабываньне-ж торфу нескладнае, нэ патрабуе амаль ніякіх грашовых затратаў, а толькі працы. Ён гарыць таксама добра ў звычайных печах, як і дровы, а часта дае цяпла нават больш, чым дровы.

Торф дае лепшую падсьцілку для жывёлы. Жывёла ў сялянскай гаспадарцы рэдка ўтрымоўваецца па правілах, якія ўказвае навука. У селяніна пры нізкіх ураджаях збожжа атрымліваецца мала саломы, якая ідзе на корм. Жывёла-ж стаіць на голай зямлі ці падлозе, дзеля чаго бывае брудная, запэцканая ў гнаі. І ў гэткім выпадку можна дапамагчы торфам, які зьяўляецца лепшаю падсьцілкаю для жывёлы: ён дае цёплы падсьціл жывёле, утрымлівае жыдкія нячыстоты, каштоўныя для ўгнаеньня палёў і пры ўжываньні торфу падлога хлявоў заўсёды сухая. Гэтым мы з'экономім салому для корму і атрымаем больш каштоўнага і вельмі патрэбнага для нашых палёў і сенажацьцяў гною.

Торф, як угнаеньне, ўсім добра ведамы. Ён ствараецца з адмёршых расьлін, утрымоўвае ўсе тыя матар'ялы, якія неабходны для кармленьня расьлін. Трэба толькі, каб расьліны, з якіх складаецца торф, перагнілі, пачарнелі. Тады торф будзе надта добрым для ўгнаеньня.

Торф, які неабходна здабыць з восені, або ўзімку, складываюць у кучы каля поля, якое патрэбна ўгнаіць. Некалькі разоў яго перакапываюць, каб ён больш праветрыўся і к восені на папары яго можна ужываць як угнаеньне замест гною.

Яшчэ лепш, калі торф з балота вывезьці ўзімку к сабе на двор у кучу і пасыпаць яго вапнай, а затым усе адкідкі хатняй гаспадаркі—попел з печаў, памы, птушыны памёт і інш. выкідываць на гэту кучу. Затым час ад часу трэба кучу перакапаць. Гэткім чынам к сяўбе ярыны на будучы год будзем мець угнаеньне па сваей якасьці ня горшае за гной.

Але яшчэ лепей, калі к тарфяной кучы дадаць гною з кароўнікаў і канюшняў. Тады торф у кучы робіцца лепшым за гной.

Адсюль відаць, што балота—гэта наша нескарыстанае дармавое багацьце. Клапатлівы і беражлівы селянін павінен карыстаць у гаспадарцы торф, як апал, як падсьцілку замест саломы і як угнаеньне. Тады ўраджай сельска-гаспадарчых расьлін падвысіцца, гаспадарка земляроба ўзмацніцца, а ад гэтага палепшыцца агульны дабрабыт краю.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Гадоўля кролікаў.

На гадоўлю кролікаў у нас зьвяртаецца вельмі мала ўвагі, калі не сказаць больш таго, хаця аб гэтым і шмат гаворыцца. Між тым за граніцаю, дзе для гэтага значна горшыя ўмовы, кролікагадоўля займае паважнае мейсца ў галіне сельскае гаспадаркі.

Праўда, ёсьць у нас шмат такіх асобаў, якія не шкадуюць слоў для пашырэньня гэтае галіны жывёлагадоўлі і як мага стараюцца пашырыць кролікагадоўлю. Але ёсьць шмат і рашучых ворагаў гэтай гадоўлі, якія даводзяць, што гадоўля кролікаў не аплачваецца і дзеля гэтага шкода толькі траціць на яе грошы і час.

Дзеля чаго-ж гэта такая розніца ў паглядах?

Чаму, ласьне ў нас, у краі, дзе ёсьць даволі пашы для кролікаў, кролікагадоўля ня прыбіваецца, у той час як у Заходняй прамысловай Эўропе, дзе прыходзіцца купляць пашу за высокую цану, гадоўля кролікаў значна распаўсюджана і складае высокі процант жывёлагадоўлянай прадукцыі. Гэта тлумачыцца галоўным чынам слабою ведаю гэнае галіны сельскае гаспадаркі. Зусім зразумела, што кролікагадоўля ня можа даць надзвычайнай карысьці. Але-ж яно не патрабуе і надзвычайнага нагляду за сабою і траты часу, як, напрыклад, сьвіньні ці іншая жывёла. Толькі патрэбна веда, як ім займацца і ахвота. Гадоўля кролікаў вымагае пэўнай падгатоўкі, знаўства з расаю, якая найбольш надаецца для гадоўлі ў нашых умовах.

Часта здараецца, што ў нас замкнуць кролікаў у клетцы, кінуць ім крыху зеляніны і гэтым канчаецца ўся апека над імі. І пазбаўленая волі жывёла часта прымушана спажываць са шкодаю для сябе тую зеляніну, якой ён не спажываў-бы, калі-б быў на волі. Часта ён сядзіць дзе-небудзь у цёмным катуху, на гнаі, што шкадліва адбіваецца на яго здароўі. Дзеля гэтага трэба дзівіцца яшчэ, што ў гэткіх умовах ён жыве і плодзіцца. Пры гэткіх умовах, у якіх жыве ў нас кролік, іншая жывёла ня вытрымала-бы. Але гэтая вытрываласьць кроліка гавора толькі на яго карысьць. Бо калі-б затраціць на іх больш увагі, любві і зацікаўленасьці, дык гадоўля кролікаў дала-бы вялікую карысьць.

Ня сулячы залатых гораў можна прапанаваць толькі больш азнаёміцца з кролікагадоўляю. Тады толькі яно прынясе карысьць. Мяса кроліка вельмі смачнае. За граніцаю з яго робяцца кансэрвы. Запатрабаваньні на футра кролікаў вялікія. Хутка наступіць час, што і ў нас зразумеюць вялікую карысьць гадоўлі кролікаў і заместа таго, каб прадаваць за бязцану пашу, яна будзе выкарыстана з большаю карысьцю для жывёлы. Наагул трэба зьвярнуць большую ўвагу на жывёлагадоўлю, тады і кролікагадоўля займе належнае мейсца ў агульна-рацыянальнай сельскай гаспадарцы. Тады кролікі, як гусі ці курыныя яйкі, ня толькі здолеюць забясьпечыць хатнія патрэбы, але і паслужаць адною з паважных рэчаў гандлю.

## Аб гадоўлі і ўтрыманьні козаў.

Козы могуць быць гадаваны з вялікай выгадай для кожнага гаспадара. На ўтрыманьне казы зусім патрэбны малыя вымаганьні, дзеля гэтага козаў могуць трымаць найменш заможныя гаспадары. Хаця-ж утрыманьне козаў зусім не каштоўнае, але карысьць ад іх вельмі вялікая. Дзьве казы можна некалькі разоў лягчэй утрымаць, чымся адну карову, а малака яны таксама дадуць болей ад каровы. Пры гэтым казінае малако зьяўляецца добрым сьродкам лячэньня ад некаторых хваробаў, асабліва сухот, ці, наагул, людзям не здаровым на грудзі.

Шэрсьць казы таксама дарагая і мае вялікі збыт. Мяса маладых казьлянят вельмі смачная і цэнная.

З гэтага бачым, што каза можа прынасіць вельмі шмат карысьці кожнаму гаспадару ў параўнаньні з зусім малымі коштамі, патрэбнымі на яе ўтрыманьне. Каза здавольваецца ўсякім пажывам, яна можа есьці тыя расьціны, каторых ніякая жывёла не зачэпіць. Напрыклад, каза можа летам задавольвацца драўлянай карой, веткамі лазы і тымі астаткамі травы, дзе авечка і тая сабе нічога ня знойдзе. Зімой каза пражывае абʼедкамі саломы, застаўшыміся ад коней ці кароў. Толькі перад казеньнем каза патрабуе крыху большага дагляду. За 10 дней перад аказеньнем казе абавязкова трэба даваць сена і клеверу, а таксама час-ад-часу і патрошку аўса.

Для выбаркі добрай казы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на яе вонкавы выгляд. Добрая каза павінна быць рослая, мець цьвёрдую паходку, шэрсьць густую, мяккую і гладкую; вымя вялікае з доўгімі і грубымі цыцкамі; патрэбна, каб яна была шырокая ззаду і каб ногі былі тоўстыя і кароткія.

Добры казёл таксама адлічаецца тоўстымі нагамі, кароткай шыяй, густой і мягкай шэрсьцяй; віслымі вушамі і доўгай, густой барадой.

Казіныя хлявы павінны быць чыстыя і падсьцілка павінна зьмяняцца штодзённа. Бо запах ад гною, а болей ўсяго сырасьць надзвычайна шкодзіць козам на здароўе.

Судзячы з кошту ўтрыманьня і карысьці, якую мы атрымліваем ад казы, можна сьмела цьвярдзіць, што гадоўля козаў можа шмат прынясьці чаго добрага для нашага жыхарства, калі яно стане на адпаведным пазёме.

## Гадоўля сьвіньней.

Свіньня стварэньне пражорлівае. Мяса яе, прыгатаванае ў розныя спасабы, становіць асаблівы прысмак кожнага сяляніна. Пры выбары сьвіньні трэба глядзець, каб яна мела доўгую галаву з шырокім ротам, вочы чыстыя, агнёвыя, вушы доўгія, пакрытыя шэрсьцяй і злёгка павіслыя; шыю тоўстую, сьпіну і паясьніцу шырокую і роўную; цела павінна быць доўгае, а бакі шырокія. Ногі павінны быць кароткія, бруха адвіслае. Наймацнейшым родам сьвіньней лічацца чорныя сьвіньні і пёстрыя.

Сьвіньня корміцца найрожнейшымі травамі, карэньнямі і розным дабром. Звычайна сьвіньні даецца два разы ў дзень есьці, рана і вечарам. Але сьвіньні апарасіўшайся трэба даваць ужо тры разы, ў працягу 3—4 тыдняў. Маладых парасят найлепей карміць кіслым малаком і размочанымі ў ім зернятамі хлеба. Пры гэтым кормячы сьвіньней, трэба надта асьцерагацца, каб ня даць ім гарачай стравы, бо ад гарачага пажыву сьвіньня робʼіцца запаленаю і яе немагчыма адкарміць.

Адкармліваньне сьвіньней на сала бывае рознымі спосабамі. Каб адкарміць сьвіньню трэба як найболей дабра, але як нашыя сяляне часта самі на яго галадаюць, дык гэта робіцца гэткім спосабам: пад канец верасьня трэба сьвіньню пачаць карміць рознай агароднінай, якая дробна сячэцца і заварваецца варам, пасьля дадаецца да гэтага па прыгаршах ржаной, або ячменнай мукі і такую страву даваць 3 разы ў дзень у адзіначныя гадзіны. Гэткім спосабам карміць 4 тыдні. Тады ў апошнія 3 тыдні трэба даваць паранае жыта і пойлу, зробленую з разчыны жытняй мукі. Пры гэтым і дагляд за сьвіньнёй патрэбен не абы які. Груба той памыляецца, хто кажа, што сьвіньня любіць гразь і балота і што гэта для яе ідзе на здароўе. Якраз сьвіньня найлепей любіць чыстату. Дзеля гэтага сьвінныя хляўцы павінны быць заўсёды чыстыя і каб ніколі не бракавала чыстага паветра. Сырыя і сьмярдзючыя хлявы для сьвіньней зусім не адпаведныя, бо ў такім хлеве сьвіньня заражаецца рознымі хваробамі, якія пасьля пераходзяць да чалавека, ядучага мяса.

**Ня зьнішчайце газэты! Прачытаўшы перадайце суседу!**

# Самаўрадавая хроніка.

**— Ваяводзкая Віленская Рада.** Выбары да Ваяводзкіх Калегіяльных Ворганаў (Ваяводзкая Рала і Аддзел) на абшары Віленскага Ваяводзтва ўжо п. Ваяводам распісаны і павінны быць закончаныя ў павятовых Сойміках і ў Віленскай мясцовай Радзе не пазьней 1-га чэрвеня.

**— Нарада аб укладзе гаспадарчае праграмы ў Наваградзкім ваяводзтве.** У першай палове траўня ў Наваградзкім Ваяводзтве адбылася канфэрэнцыя аб укладзе гаспадарчае праграмы.

У канфэрэнцыі бралі ўдзел: шэф кабінету Прэзэса Рады Міністраў п. Южэўскі, начальнік аддзелу палітычна-грам. Мін. Унутр. Справаў п. Пацёркоўскі, прэзэс Краёвага Гаспадарчага Банку гэн. Гурэцкі, дырэктары ральнічых банкаў п. Нарбут і з Вільні—п. Мацулевіч, прадстаўнікі самаўрадаў і грамадзкіх арганізацыяў і прадстаўнікі ад гаспадарчых і прамысловых арганізацыяў.

Канфэрэнцыю адчыніў Наваградзкі Ваявода п. Бэчковіч, які зазначыў, што перадусім, каб дапяць у гаспадарчым разьвіцьці краю найлепшых вынікаў, трэба выкарыстаць прыродныя вартасьці абшару, бо ні дзяржава, ні грамадзянства не пасядаюць такіх вялізных матэр'яльных сьродкаў, каб можна было-бы аднаразова выканаць тую працу, якая патрэбна. Дзеля гэтага накрэсьленьне пляну найпільнейшых работ і шляхаў гаспадарчага развою ёсьць пастулятам сучаснага мамэнту.

Далей нач. самаўрад. аддз. п. Богаткоўскі ў сваім абшырным рэфэраце прадставіў наглядны стан гаспадарства ў ваяводзтве.

Потым дырэктар Акр. Дыр. Раб. Публічных інж. Зубэлевіч азнаёміў прысутных са станам камунікацыі і магчымасьці яе развою.

Прэзэс Гаспадарчага Краёвага Банку гэн. Гурэцкі, апіраючы на вывадах папярэдніх двух рэфэратаў, сцьвердзіў, што лёзунг сучаснага моманту маршалка Пілсудскага аб „выперадках у працы" якраз тутака знайшоў сабе прыстасаваньне. Далей гэн. Гурэцкі прадставіў канфэрэнцыі поўны образ крэдытнае палітыкі Банку, якая спачатку змушаная была ўдзяляць аграніченыя крэдыты, дый і толькі на самыя канечныя патрэбы, а цяпер ужо, паступова пашыраючы, крэдытуе самаўрады як павятовыя так і мясцовыя. Крэдыты пераважна ўдзяляюцца на справы камунікацыі і адсудову.

Дырэктар Ральнічага Банку п. Нарбут, азнаёміў прысутных з палітыкай Дзяржаўнага Ральнічага Банку і падкрэсьліў, што ральніцтва будзе ўзятае Банкам пад асобую апеку.

**— Адбудова Краю.** На абшары Віленскага ваяводзтва да гэтага часу адбудавана 50.208 будынкаў. У паасобных паветах гэта выглядае наступна: у Віленска-Троцкім — 3.638 сядзіб, у Вялейскім і Маладэчанскім—20.054, у Ашмянскім—12.091, у Браслаўскім—7.117, у Сьвенцянскім—2.609, у Пастаўскім—21.611 і ў Дзісьненскім—2.578.

У стасунку да лічбы неадбудаваных сяліб, адбудавана агулам 33% сяліб.

У зямлянках і бараках яшчэ жывуць каля 3.095 гаспадароў, а найбольш у Паўстаўскім павеце—824 і Ашмянскім—773.

**— Аб спажыўчых каапэратывах.** У Вільні ў палове траўня адбылася канфэрэнцыя сувязі спажыўчых каапэратываў Віленскага ваяводзтва. Як высьвеілася, усяго ў Віленскім ваяводзтве істнуе 36 каапэратываў з 48 склепамі і 1 пекарняй. Сяброў больш як 6000, а калі палічыць іхнія сям'і, дык будзе каля 25 тысячаў.

Як для Віленскага ваяводзтва, дзе маецца 108 гмін і 113 местаў і мястэчкаў, дык гэта і ня надта шмат. Але паводле агульнага абароту з 27 усіх спажыўчых аддзелаў у Польшчы—Віленскі аддзел сувязі спажыўчых аддзелаў займае трэцяе мейсца. Па гандлёвых абаротах у нашым ваяводзтве першыя мейсцы займаюць: „Згода" ў Браслаўі, „Зожа" ў Маладэчні, „Сьвіт" у Варнянах, „Спулдзельча" ў Вільні і „Надзея" ў Ігналіне.

**— Крэдыты на адбудову Краю.** Міністэрства Публічных Работаў перадало праз Польскі Банк для Віленскага ваяводзтва 100,000 злотых на рахунак крэдыту на адбудову зьнішчаных у часе вайны рольных гаспадарак. Гэтую суму ваяводзкі ўрад разьдзяліў між паветамі.

**— Зьезд аграномаў.** 5 і 6 чэрвеня адбудзецца ў Наваградку зьезд аграномаў з усяго ваяводзтва.

**— Курс для шарварачных старажоў у Маладэчні.** Некалькі дзён назад адбыліся ў Маладэчні курсы для шарварачных работ, зарганізаваныя павятовым Аддзелам Маладэчанскага Сойміку. На гэтыя курсы зьявілася 26 кандыдатаў, якія ў працягу некалькі дзён працы атрымалі тэаратычную і практычную веду ў галіне шарварачных работ.

**— З Стаўпецкагу павету.** Павятовы Аддзел у Стоўпцах вызначыў наступную схэму паказаў у галіне павятовага ральніцтва жывёлы (trzoda) сьвіней і авечак — 22 траўня ў Залужы, 11 чэрвеня ў Турцу, 18 чэрвеня ў Міру; кароваў і каней—24 чэрвеня ў Цэхановай Слабадзе, 29 чэрвеня ў Гіменовшчыне, 1 ліпня ў Дэраўне, 8 ліпня ў Далматаўшчыне, 15 ліпня ў Беражне, 29 ліпня ў Літве, 5 жніўня ў Зацежаве.

**— Чугунка паміж Варапаевам і Друяй.** Згодна распараджэньню Міністэрства Ральніцтва, галоўнае кіраўніцтва будовы чыгункі Варапаева—Друя будзе мясьціцца ў Вільні.

**— Плян разбудовы дарог у Віленшыне.** На скутак унёскаў п. Віленскага Ваяводы Ўрад вызначыў на дарожныя справы Ваяводзтва на

1928/29 год поўную суму, якую Дырэкцыя Публічных Работ намерваецца выкарыстаць на правядзеньне ў бягучым сэзоне дарожных работ. Будова дзяржаўных работ будзе весьціся ў 3-х кірунках.

У кірунку Вільня—Радунь—Горадня праэктуецца выканаць земляныя работы аж да граніцы ваяводзтва, г. ё. 18 кілëмэтраў, дастаўляючы туды і патрэбную колькасьць камня да закончаньсьці дарогі далей яшчэ на 20 клм. Пасьля будзе закончвацца мост праз раку Сольчу і будавацца 2 новых масты—адзін на рэчцы Лукні, другі на Мэрэчанцы.

У кірунку Ліды будуць выконвацца гэтак сама земляныя работы даўжынёй каля 5 кілём.

У кірунку Кабыльніка—намераюцца закончыць 10 кілём. шашу.

Будова большых дзяржаўных мастоў абмяжуецца толькі заканчэньнем мастоў ужо пачатых у папярэднім сэзоне, а ўласьне: праз Вільлю ў Нямэнчыне і праз Сольчу ў Зыгмунтышках Віл.-Троцкага павету. Праз Мэру ў Балюнах, і Страчу ў Кракішках Сьвянцянскага павету і праз Ужлянку ў Сватках Пастаўскага пав.

Будова самаўрадовых дарог будзе весьціся ў наступных тэрэнах: Вільня—Ландварова праз Віленска-Троцкі Соймік, Смаргонь—Вялейка праз Вялейскі Соймік і Ашмянскі, Відза—Рымшаны праз Браслаўскі Соймік і Язна—Празарокі праз Дзісненскі Соймік. Агулам на кожны Соймік выпадае магчымасьць адбудаваць каля 40 кілёмэтраў новых дарог.

З самаўрадовых фондаў, прадугледжаных у бюджэтах на 1928/29 г. на дарожныя мэты, самаўрады зьбіраюцца выканаць каля 212,680 квадратных мэтраў брукарскіх работаў даўжынёй каля 45 клм. і адбудаваць 121 дзеравяных мастоў.

Да ўсіх гэтых работаў, (як пэрсаналь, машыны і іншыя), прыгатаваньні ў поўным ходзе і з надходам адпаведнай пагоды работы распачнуцца.

**— Даляровая пазычка на дарожную справу.** Краёвы Гаспадарчы Банк мае ў найбліжэйшым часе зрабіць заграпічную даляровую пазычку на адбудову дарог у паветах — усяго 20 мільёнаў даляраў, з якой удзеліць пазычкі ваяводзтвам, а ўласьне:

1) Віленскаму—на Паставы 50.000, Сьвянцяны 60.000;
2) Навагрудзкаму—Навагрудак 100.000, Несьвіж 100.000, Стоўбцы 40.000, Слонім 60.000;
3) Беластоцкаму—Бельск Палескі 70.000, Ваўкавыск 100.000;
4) Палескаму—Косаў 50.000, Пінск 50.000, Сарны 80.000, Кобрын 60.000.

**— Ральнічыя школы.** Міністэрства Ральніцтва ў хуткім часе пачне адчыняць у кожным ваяводзтве ральнічыя школы з 11-ці месячным курсам. Пры кожнай школе тут-жа будзе спэцыяльны інтэрнат для вучняў.

**— Бюджэт Маладэчанскага Сойміку.** 18 траўня Самаўрадовы „Wydział" пры Віленскім ваяводзтве зацьвердзіў бюджэт павятовага аддзелу ў Маладэчне ў суме 346,000 зл.

**— Будова чугункі паміж Навагрудкам і Маладэчнам.** Міністэрства Камунікацыі распачало ўжо ўступныя працы дзеля высьненьня грунтаў, па якіх мае быць праведзена новая жалезная дарога паміж Навагрудкам і Маладэчнам. У зьвязку з гэтым Навагрудзкі Ваявода п. Бэчковіч склікае ў бліжэйшых днях нараду дзеля ўстанаўленьня лініі насыпу і выслуханьня пажаданьняў мяйсцовага жыхарств . Аканчальна высьнена, што 20% коштаў будовы прыймаюць на сябе прыватныя гандлёвыя фірмы.

**— З'езд войтаў і пісараў Лідзкага павету.** 11 траўня ў Лідзе адбыўся з'езд войтаў і пісароў Лідзкага павету, на якім абгаварываліся наступныя справы:
1. Дзейнасьць Камунальнае Касы Ашчаднасьці Лідзкага павету.
2. Азнаямленьне з распараджэньнямі Пана Прэзыдэнта ў галіне адміністрацыі.
3. Справа падатку на папраўку шляхаў. Падатак гэты будзе разложаны гэткім чынам, што кожная гміна мае заплаціць ад 7—12 тысячаў злотых.

**— Выбары войта ў Тарноўскай гміне Лідзкага павету.** 6 траўня адбыліся выбары новага войта Тарноўскай гміны замест дасюляшняга войта Л. Кунцэвіча, які адмовіўся ад свайго становішча. Выбраны гр. Кузюта, селянін вёскі Радзіваншкі.

# Самаўрадавы параднік.

ЗАПЫТАНЬНЕ: Ці можна цяпер клапаціцца аб 3-х месячным адшкадаваньні, калі ў 1925 годзе застаўся звольненым з пасады заступніка сэкратара гміны без патрэбнага папярэджаньня?

АДКАЗ: Арт. 2277 Цывільнага Кодэксу ў гэткіх выпадках прадугледжвае тэрмін да 5 гадоў, і калі цяпер гміна да гэтае справы аднясецца ня прыхільна, дык трэба падаць жалабу ў Суд, бо тэрмін яшчэ ня ўпушчаны.

ЗАПЫТАНЬНЕ: Хто зьяўляецца валадаром пляцоў і школьных будынкаў, набытых ці выбудаваных перад 1914 г. — грамадзянства ці гміна?

АДКАЗ: Валадаром школьных будынкаў зьяўляецца той, на каго паказана ў ліквідацыйнай табэлі, а ласьне грамадзянства ці гміна. Апошняя можа застацца валадаром гэтых будынкаў толькі на падставе ўхвалы грамадзянскага Сабраньня, вынесенай згодна з 4 пар. 271 арт. закону аб Самаўрадзе з 1864 г.

ЗАПЫТАНЬНЕ: Ці мае права гміна жадаць ад вучыцеля арэнды за памешканьне і пладовы сад?

**АДКАЗ:** Гміна не заабавязана дастаўляць вучыцелю бязплатна памешканьне; 11 арт. Закону ад 17.II.1928 г. (Dz. U. № 18, пар. 143) не накладае гэтага цяжару на гміну. Ня чыніць гэтага роўным чынам і 1 арт. памянёнага Закону аб будове школаў і дзеля гэтага гміна мае права жадаць пэўнай арэнды за памешканьне хаця бы ў разьмеры дадатку на памешканьне. У гэтай справе належыць у патрэбным выпадку зьвярнуцца да „Wydziału Powiatowego." Адначасна, калі вартасьць пладовага саду адпавядае вартасьці 2 моргаў зямлі, на якія мае права кіраўнік пачатковае школы, дык гміна ня мае права жадаць арэнды за сад.

**Запытаньне:** Ці можа гміна распараджацца рухомым інвэнтаром пачатковых школаў, пераносячы, напрыклад, яго да іншае школы?

**Адказ:** На падставе тымчасовых загадаў аб пачатковых школах з дня 10, VIII. 1917 г. (арт. 54 і 20), падцьверджаных арт. 7 Закону ад 4. VI. 1920 г. (Dz. U. № 50, пар. 304), калі гміна не перадала нагляднаму органу надзору за школьным інвэнтаром, дык гміна можа сама ў згодзе з наглядным органам пераносіць пасобныя рэчы з аднэй школы да другой.

**Запытаньне:** Чыей маемасьцю—гміны ці дзяржавы—зьяўляецца школьны будынак, выбудаваны напалову за скарбовыя грошы і напалову за субсыдыі гміны?

**Адказ:** Калі дзяржава, даючы пазычку і субсыдыю, не зрабіла ніякіх спэцыяльных засьцярог, дык будынак цалком належыць да гміны (арт. Закону ад 17. II. 1922 г. аб будове школаў. Dz. U. № 18 пар. 144).

**Запытаньне:** Ці належыць школьныя будынкі даваенныя і цяпер выбудаваныя, роўным чынам школьны інвэнтар аценяць і ўпісваць да інвэнтарнай гміннай кніжкі?

**Адказ:** Калі школьныя будынкі і інвэнтар зьяўляюцца маемасьцю гміны, незалежна ад таго, зьяўляецца гэты будынак даваеннай ці цяперашняй будоўлі, дык увесь рухомы і нярухомы інвэнтар павінен быць запісаны да інвэнтарнай гміннай кнігі, якая вядзецца паводле § 26 загаду Міністэрства Ўнутраных Справаў і Скарбу ад 28. III. 1927 г. (Dz. U. № 38, пар. 345) і цыркуляр міністра ўнутраных справаў № 99, ад 6. V. 1927 г.

# Закон аб павятовым самаўрадзе.

**Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель, як устаў аб павятовым самаўрадзе.**

(Dz. U. Z. W. Nr. 90 poz. 1284).

*(Працяг, гл. № 1, 2, і 3 „Бел. Радны").*

§ 34. Сябра Сойміку, які не зьявіўся на 3 чарговыя паседжаньні без здавальняючага тлумачэньня, траціць мандат.

§ 35. Павятовыя дзяржаўныя ці самаўрадавыя ўрадоўцы могуць, з дазволу Старшыні, браць слова на паседжаньнях Павятовага Сойміку па справах, уваходзячых у межы іх кампэтэнцыі.

§ 36. Кожны сябра Павятовага Сойміку мае толькі адзін голас; перадача свайго голаса другому сябру Сойміку—не дазваляецца.

§ 37. Усе пастановы Павятовага Сойміку прымаюцца большасьцяй галасоў прысутных.

§ 38. Старшыня ня прымае ўдзелу ў галасаваньні.

§ 39. Галасаваньне ёсьць яўнае. Аднак у справах асабістых, а такжа на жаданьне ¼ прысутных сяброў галасаваньне мусіць быць праведзена тайна, або імяннае.

Галасаваньне пры выбарах, а такжа пры вызначэньні аплатаў і дыетаў Старшыням, сябрам Аддзелу і Сойміку—ёсьць заўсёды тайнае.

§ 40. На кожным паседжаньні павінен быць сьпісаны пратакол і найдалей 10-га дня ад дня паседжаньня Павятова[г]а Сойміку—пераслаены надзорчай уладзе з адпаведнымі далучнікамі.

§ 41. Пратакол падпісваюць Старшыня і прысутныя сябры Аддзелу, а такжа сябры Сойміку, якія пажадаюць падпісаць.

## III. Аб Павятовым Аддзеле, Старшыні яго і сябрах.

§ 42. Павятовы Аддзел складаецца з Старшыні і 2 або 3 сяброў, згодна з пастановай Сойміку.

§43. Старшыню выбірае Соймік абсалютнай большасьцяй галасоў з паміж асобаў, якія ядказваюць наступным агульным умовам:

1) зьяўляюцца сябрамі павятовага самаўрадовага хаўрусу на абшарах Усходніх Зямель;
2) маюць 30 гадоў скончаных;
3) ведаюць урадовую мову ў слове і пісьме;
4) маюць адукацыю ня менш сярэдняй школы.

§ 44. Сяброў Павятовага Аддзелу выбірае Соймік праз прапарцыянальныя выбары з пасярод асобаў, якія адпавядаюць усім умовам, паказаным у папярэднім артыкуле.

§ 45. З пасярод сяброў Павятовага Аддзелу Соймік выбірае заступніка Старшыні звычайнай большасьцяй галасоў.

§ 46. Падрабязныя правілы аб выбарах Старшыні, сяброў Аддзелу і заступніка Старшыні, акрэсьліць рэгулямін, які будзе выданы шэфам Адмін. Сэкцыі Гэнер. Камісарыяту Цывільнага Ўраду Усходніх Зямель.

(Канчатак будзе).

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1